# Голас Радзімы

№ 33 (2175)
16 жніўня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






# ІНСТЫТУТ, ЯКІ ЛЕЧЫЦЬ ...ПРЫРОДУ

Нядаўна ў Акадэміі навук БССР з'явіўся новы, трыццаць пяты па ліку, Інстытут праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі. Узнік ён на базе былога акадэмічнага Інстытута торфу. Чаму прынята менавіта такое рашэнне?

Справа ў тым, што запасы торфу ў рэспубліцы ў апошні час скараціліся. І скараціліся значна. Напрыклад, гадавая здабыча з 40 мільёнаў тон знізілася да 25 і працэс гэты будзе працягвацца. Такім чынам, пытанне аб перапрафіляванні інстытута паўстала само сабой. Ну, а калі ўлічыць яшчэ і вострую актуальнасць экалагічных праблем Беларусі, то, зразумела, рашэнне, зыходзячы нават з элементарнай логікі, магло быць адзінае.

Калі коратка, то задачы, якія ўскладзены «на плечы» новай навуковай установы АН БССР, наступныя. Прыярытэтная з іх — вывучэнне ўстойлівасці розных экалагічных сістэм, наколькі яны ў стане вытрымаць той антрапагенны прэс, які цяпер дзейнічае, цісне на іх з усіх бакоў. Другая задача — ацэнка і прагноз гэтага антрапагеннага ўздзеяння на прыроду. Трэцяя, яна захавалася, — выкарыстанне прыродных рэсурсаў. І апошні напрамак работы новай навуковай установы — маніторынг навакольнага асяроддзя Беларусі, назіранне за тымі зменамі ў ім, якія адбываюцца пад уздзеяннем чалавека.

Такім чынам, адзін з найбольш цікавых напрамкаў работы навуковага калектыву — сапрапелі. У перакладзе з грэчаскага — «гнілы іл». Каму невядома ватная, халаднаватая, калі ступаеш па ёй, мякаць на дне вадаёма. Арганічнае рэчыва, якое без перабольшання, валодае ўнікальнымі здольнасцямі. Карыснае як для чалавека, так і для зямлі, раслін, якія вырошчваеш, жывёлы, якую гадуеш. З поспехам выкарыстоўваецца ў медыцыне, будаўніцтве, геолагаразведцы, хіміі, сельскай гаспадарцы... І многія яго, як сцвярджаюць вучоныя, яшчэ больш чарадзейныя магчымасці, прадстаіць адкрыць.

...На стале ў загадчыка лабараторыі інстытута доктара тэхнічных навук М. Лапатко стаялі дзве шклянкі, запоўненыя адна — рудым парашком, другая — такога ж колеру «ледзянцамі». Ледзь улоўны пах — чысты, прыродны, рачны, не хімічны.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

НА ЗДЫМКАХ:

- Распараджэнне Савета Міністраў СССР аб стварэнні новага навукова-даследчага інстытута ў Мінску.
- Здабыча сапрапеляў на возеры Чырвоным па тэхналогіі, распрацаванай у інстытуце.
- Інжынер Ірына КАЛАМЕЦ дэманструе будматэрыялы, выробленыя з прымяненнем сапрапеляў.
- Бясшкодныя для прыроды ўгнаенні, прапанаваныя інстытутам.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.





ПАЗІЦЫЯ ПРАФСАЮЗАЎ

## ХТО ВІНАВАТЫ?

**Прэзідыум Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў звярнуў увагу ўрада рэспублікі на далейшае пагаршэнне забеспячэння насельніцтва таварамі народнага ўжытку і харчаваннем. З прылаўкаў магазінаў зніклі нават тавары першай неабходнасці. Нарастае беспакараны разгул спекуляцыі. Усё гэта выклікае рэзкае незадавальненне людзей, падрывае іх давер да органаў дзяржаўнай улады. Няпростая сітуацыя, што склалася, лічыць Белсаўпроф, настойліва патрабуе прыняцця ўрадам рэспублікі экстранных мер па стабілізацыі спажывецкага рынку, папярэджанню падзення жыццёвага ўзроўню шырокіх слаёў насельніцтва.**

**Прафсаюзы не могуць пагадзіцца са сцвярджэннем, што асноўнай прычынай разбалансавання рынку з'яўляецца толькі павелічэнне даходаў працоўных. Факты такія: за першае паўгоддзе бягучага года фонд аплаты працы ў народнай гаспадарцы. уключаючы работнікаў кааператываў і калгасаў, вырас у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 9,5 працэнта, у т.л. у дзяржаўным сектары эканомікі—на 8,2 працэнта. У той жа час падаткі з насельніцтва павялічыліся на 15,8 працэнта, узровень інфляцыі склаў прыкладна 10 працэнтаў. Стрымліванне даходаў насельніцтва ніжэй узроўню інфляцыі прыводзіць да пагаршэння эканамічнага становішча людзей. Спыняцца ж павінны непрацоўныя спекулятыўныя даходы, выплаты незаробленых грошай.**

ПАПЯРЭДЖАННЕ ЎЛАДАМ

## ТЫТУНЁВАЯ СМУТА

**7-га жніўня ў Мінску на некалькі гадзін быў спынены рух транспарту па Ленінскім праспекце. Узбуджаная чарга курцоў, што безнадзейна ўжо каторы дзень стаяла ля магазіна «Тытунь», выйшла на праспект, перакрыла рух. Узнік стыхійны мітынг пратэсту. Прычынай яго стаў дэфіцыт цыгарэт—раскупілі ўсё аж да заляжалай махоркі яшчэ месяц назад**

**Пад націскам натоўпу праз некалькі гадзін у Мінск былі завезены тытунёвыя вырабы з Гродзенскай фабрыкі. Але прычына інцыдэнту не толькі ў цыгарэтах. На думку некаторых, цыгарэты толькі першы сігнал. Людзі стаміліся жыць у беспрасветным дэфіцыце—няма панчох і шкарпэтак, няма абутку і бялізны, няма каўбасы.**

**Як заявіў старшыня планавай камісіі Мінгарвыканкома М. Макаед, неабходна прымаць экстранныя меры. Пакуль што мы чуем толькі размовы. На гарадскіх, рэспубліканскіх, саюзных сесіях мы заняты толькі тым, што размяркоўваем. Ніхто не зрабіў канкрэтнай прапановы: якім эканамічным рычагом садзейнічаць росту вытворчасці? Мы дзелім. А дзяліць хутка не будзе чаго. Калі год назад таварных запасаў у магазінах Мінска было на 48 дзён, то сёння — на 33. І гэта тавары, якія ўжо ніхто не хоча браць...**

**Тытунёвая смута мінула на гэта раз, што вывядзе людзей на вуліцу заўтра?**

**НА ЗДЫМКУ: «тытунёвы бунт» на Ленінскім праспекце ў Мінску.**



КУЛЬТУРА

## «СКАРБЫ СУСВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ» —

**унікальная шматтомная серыя выдавецтва «Мастацкая літаратура». У серыю ўключаны лепшыя творы з літаратур усіх краін і народаў, якія ўвайшлі ў залаты фонд сусветнай культуры і карыстаюцца нязменнай папулярнасцю сярод чытачоў: «Іліяда» і «Адысея» Гамера, «Боская камедыя» Дантэ, «Дэкамерон» Бакачыо, «Трагедыі. Санеты» Шэкспіра, «Фаўст» Гётэ, «Дон Кіхот» Сервантэса, «Рабінзон Круза» Дэфо, «Падарожжа Гулівера» Свіфта, а таксама літаратура XIX і XX стагоддзяў.**

**Серыя, якая будзе складацца прыкладна са 100 тамоў, выдаецца на беларускай мове, творы перакладаюцца з мовы арыгінала. Падрыхтоўкай тамоў занята вялікае кола пісьменнікаў, вучоных, мастакоў. Кожны том суправаджаецца ўступным артыкулам і каментарыямі.**

**У мінулым годзе ўбачылі свет «Доктар Фаўст» Т. Мана, «Трагедыі. Санеты» У. Шэкспіра, «Вершы. Паэмы» Т. Шаўчэнкі. Сёлета выйдуць «Мёртвыя душы. Тарас Бульба. Рэвізор» М. Гогаля, «Фаўст» Гётэ, «Дафніс і Хлоя» Лонга, «Метамарфозы або Залаты асёл» Апулея, «Навелы» Мерымэ.**

**Серыя ілюстраваная. У афармленні яе прымаюць удзел лепшыя беларускія графікі. У асобных тамах будуць выкарыстаны ілюстрацыі вядомых мастакоў свету. Выданне разлічана на масавага чытача.**

НОВАЕ НА ЧЫГУНЦЫ



**Распрацоўка і ўкараненне новай тэхнікі і тэхналогіі на магістралях рэспублікі — галоўная задача інжынернага цэнтра Беларускай чыгункі. Цяпер яго супрацоўнікі заняты стварэннем сістэмы пастоў дыспетчарскай цэнтралізацыі, якая дасць магчымасць аператыўна ажыццяўляць збор інфармацыі аб руху паяздоў і кіраванне ім. Ужо ўзяты пад кантроль сем участкаў чыгункі. У гэтым годзе дабавяцца яшчэ дзесяць. Усяго ж на Беларускай чыгунцы мяркуецца стварыць сорак пастоў дыспетчарскай цэнтралізацыі.**

**НА ЗДЫМКУ: у Мінскім аддзяленні Беларускай чыгункі на адным з участкаў. Паязныя дыспетчары службы перавозак Фёдар ТЫПУЦЬКА (злева) і Іван МУРАВЕЙКА.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## КАНЦЭРТ У СТОЛІНЕ

**Першы дабрачынны канцэрт духоўнага песнапення «Слава, честь и мир всякому, делающему добро» адбыўся на сцэне Столінскага гарадскога Дома культуры. У праграме прыняў удзел зводны хор евангельскіх хрысціян-баптыстаў з гарадоў Кобрына, Пінска і вёскі Маньковічы Столінскага раёна—усяго каля 60 выканаўцаў. Акрамя харавых нумароў, гучалі дуэты, трыо, квартэты, дэкламаваліся вершы.**

**Сродкі, вырučаныя ад рэалізацыі білетаў, пералічаны на рахунак Брэсцкага абласнога аддзялення Дзіцячага фонду імя У. І. Леніна.**

ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ПРАБЛЕМА

## «ВЯРОЎКА» ДЛЯ РАДЫЕНУКЛІДАЎ

**Аб'ёмны пакет з праграмай дзеянняў у заражаных радыенуклідамі раёнах паклалі на стол перагавораў прадстаўнікі міжнароднага хімічнага канцэрна «Мансанто», якія прыбылі ў Мінск.**

**Па дамоўленасці і пры ўдзеле Дзяржаграпрома рэспублікі распрацаваныя вядомай фірмай прэпараты і тэхналогіі павінны ўзяць на сябе ролю «вяроўкі», якая звяжа радыенукліды, што затаіліся ў глебе.**

**На спецыяльна адабраных вопытных участках у Чэрвеньскім раёне пройдуць выпрабаванні і механізмы з мінімальным уздзеяннем на зямлю пры яе апрацоўцы, а значыць, вада і вецер не змогуць садзейнічаць распаўсюджанню радыенуклідаў. Прапанаваная праграма выратавання беларускіх зямель запатрабуе вельмі буйных грашовых сродкаў. Таму вынікі выпрабаванняў стануць галоўным аргументам для іх атрымання ад ААН, куды ўрад Беларусі зрабіў запыт аб дапамозе ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай бяды.**

У ЛЮСТЭРКУ СТАТЫСТЫКІ

## ЗАМЕЖНЫЯ СТУДЭНТЫ

**Па даных на 1989-90 навучальны год у розных гарадах Беларусі вучыцца 6 010 замежных студэнтаў. Большасць з краін «трэцяга свету»— 4 261, а з развітых капіталістычных краін — 279 чалавек.**

**Беларускіх студэнтаў, якім пашанцавала вучыцца за мяжой,—147. Амаль усе яны накіраваны ва універсітэты краін Усходняй Еўропы. Зараз кожны год Белдзяржуніверсітэт будзе накіроўваць у вышэйшыя навучальныя ўстановы ФРГ студэнтаў, якія правядуць у заходнегерманскіх універсітэтах два семестры.**

**Усяго ж за 1989 год за мяжу на розныя тэрміны выязджала 1 655 чалавек з прафесарска-выкладчыцкага саставу і каля 5 тысяч студэнтаў.**

АКТУАЛЬНЫ КАМЕНТАРЫЙ

# *АРМІЯ І ПАРТЫЯ*

**Рэзалюцыя «Аб асноўных напрамках ваеннай палітыкі партыі на сучасным этапе», прынятая на XXVIII з'ездзе КПСС, па сутнасці, адхіліла ідэю дэпалітызацыі, дэпартызацыі і дэідэалагізацыі Савецкай Арміі, якая лунала ў паветры, але пацвердзіла неабходнасць правядзення ваеннай рэформы. Рэзалюцыя мяркуе пераўтварыць сістэму партыйнай і палітычнай работы ва Узброеных Сілах СССР, у тым ліку аддзяліць партарганізацыі ад дзяржаўна-адміністрацыйных, ваенна-палітычных органаў, якія будуць ажыццяўляць маральна-палітычнае выхаванне асабовага саставу. Час пакажа, ці вытрымае такое кампраміснае рашэнне, праект якога прапанаваны ваеннымі дэлегатамі, выпрабаванне жыццём.**

**Справа ў тым, што яшчэ ўчора малавядомая і палохаючая сваёй навізной і незвычайнасцю ідэя дэпалітызацыі арміі, падобна, сёння заваёўвае ўсё большую колькасць сваіх прыхільнікаў. Так, народныя дэпутаты РСФСР недвухсэнсоўна выказаліся супраць дзейнасці якіх-небудзь партый унутры арміі, праваахоўных органаў, КДБ, за ўзмацненне дзяржаўнага грамадзянскага кантролю над іх дзейнасцю. Аналагічнае патрабаванне прагучала і на нядаўняй забастоўцы шахцёраў. Цікавыя вынікі ананімнага апытання, якое праводзілася ў адной з армейскіх партыйных арганізацый, падагуленых штотыднёвікам «Аргументы і факты». Больш за 84 працэнты камуністаў-ваеннаслужачых і грамадзянскіх спецыялістаў гэтай арганізацыі выказаліся за неабходнасць дэпалітызацыі арміі. Хоць, па сцвярджэнню апанентаў, гэтыя даныя не адлюстроўваюць поўнай карціны настрояў больш аднаго мільёна ваеннаслужачых — членаў КПСС.**

**У чым жа прычына ўзрастаючай цікавасці да гэтай праблемы з боку розных грамадскіх рухаў краіны? Справа ў тым, што многія лічаць небяспечным працэс палітызацыі Узброеных Сіл ва ўмовах неакрэплых дэмакратычных інстытутаў дзяржавы і ўзрастаючай палярызацыі поглядаў і пазіцый розных палітычных сіл. Асаблівы клопат у людзей выклікалі выкарыстанне арміі ў аперацыях па навядзенню парадку ў «гарачых кропках» краіны, а таксама адкрытая крытыка палітыкі перабудовы з боку некаторых высокапастаўленых ваенных кіраўнікоў. Усё гэта нарадзіла чуткі пра «спеючую ў арміі змову», якія самі ваенныя абвяргалі як «зусім неабгрунтаваныя».**

**Тыя, хто выступае за дэпалітызацыю арміі, нярэдка спасылаюцца на вопыт усходнееўрапейскіх краін, у якіх такое пераўтварэнне ўжо праводзіцца ў жыццё. На іх думку, гэта лагічна ўпісваецца і ў ход савецкай палітычнай рэформы, будаўніцтва прававой дэмакратычнай дзяржавы. Тым больш, што працэс стварэння розных палітычных партый у СССР ідзе поўным ходам. Пры гэтым новыя партыі актыўна дамагаюцца па крайняй меры юрыдычнага раўнапраўя з КПСС у сваёй дзейнасці. Гэта аб'ектыўна можа стварыць дадатковыя праблемы для арміі, дзе, па прызнанню выступіўшых на партыйным з'ездзе ваенных кіраўнікоў, «існуе практычна ўвесь спектар ацэнкі і поглядаў, што назіраюцца ў грамадстве».**

**Разам з тым, нягледзячы на ўзрастаючую прывабнасць ідэі дэпартызацыі арміі, нават некаторыя прыхільнікі радыкальных рэформ палітычнай сістэмы і партыі перасцерагаюць супраць яе рэалізацыі скараспелым валявым рашэннем. Вядомы ваенны вучоны, член расійскага парламента, генерал-палкоўнік Д. Валкагонаў лічыць, што краіне прадстаіць перажыць вельмі складаны перыяд перадачы функцый улады ад партыйных дзяржаўным структурам. Сапраўды, сем дзесяцігоддзяў партыя з'яўлялася вышэйшай інстанцыяй, якая непасрэдна вызначала савецкае абароннае будаўніцтва. Яшчэ зусім нядаўна, прытрымліваючыся шматгадовых традыцый, Генеральны сакратар ЦК КПСС займаў пост старшыні Савета Абароны.**

**Бясспрэчна, што адносіны партыі і арміі павінны быць перагледжаны ў інтарэсах хутчэйшага пераўтварэння аўтарытарна-каманднай сістэмы і спрашчэння структуры кіравання ваеннымі справамі. Але гэта — не такая простая праблема, як яе часам уяўляюць радыкалы. Па словах Л. Зайкова, які адказваў многія гады за ваенна-тэхнічныя пытанні ў партыйным апараце, у новых умовах цэнтр цяжару прыняцця рашэнняў павінен перамяшчацца да Прэзідэнта краіны і ў Вярхоўны Савет. Але ці гатовы апошні да актыўнай ролі? Некаторыя народныя дэпутаты СССР выказваюць незадаволенасць работай Камітэта Вярхоўнага Савета па пытаннях абароны і дзяржаўнай бяспекі. Яны лічаць, што камітэт не вызначаецца самастойнасцю і рашучасцю ў адстойванні прапаноў па радыкальнай рэформе ваенна-прамысловага комплексу, бо ў значнай меры ўкамплектаваны яго прадстаўнікамі. Відавочна, што фарміраванне эфектыўнага дзяржаўнага і грамадскага кантролю над абароннай палітыкай запатрабуе немалых намаганняў і часу.**

**Як бы там ні было, праблема дэпалітызацыі арміі, відавочна, атрымае больш лёгкае вырашэнне ў выпадку канструктыўнага дыялогу і супрацоўніцтва паміж КПСС, Саветамі, Узброенымі Сіламі і ўсімі грамадскімі арганізацыямі. XXVIII з'езд у прынцыпе выказаўся за такое супрацоўніцтва, і гэта ўнушае аптымізм. Вядома, М. Гарбачоў, як Генеральны сакратар ЦК КПСС, не можа павярнуцца спіной да тысячаў і тысячаў партыйна-палітычных работнікаў арміі, і было б некарэктна патрабаваць ад яго гэтага. Але, бадай, многае будзе залежаць ад іншага: ці змогуць праціўнікі дэпалітызацыі арміі павярнуцца тварам да М. Гарбачова як да Прэзідэнта краіны. Ці згодзяцца яны з тым, што ў плюралістычным дэмакратычным грамадстве лепш мець ваенную арганізацыю, падпарадкаваную толькі Канстытуцыі і законнаму ўраду, чым удзельніцу гарачых унутрыпалітычных спрэчак, не маючых адносін да яе задач і функцый.**

**Ігар ВАЛАЖАНІН.**

ЭКОЛОГИЧЕСКИЕ ПРОБЛЕМЫ И ПОЛИТИКА

# «КРАСНЫЕ ДОЛЖНЫ ПОЗЕЛЕНЕТЬ»

Таково мнение известного советского эколога профессора Алексея ЯБЛОКОВА, народного депутата СССР, которое он высказал в беседе с корреспондентом «Мегаполис-Экспресс», еженедельной газеты, недавно начавшей выходить в Москве. «Экологический бандитизм», убежден он, стал сегодня основным принципом государственной народнохозяйственной политики. И единственный выход поэтому состоит в том, что правительство срочно должно «позеленеть».

Для этого, полагает А. Яблоков, должно многократно возрасти влияние в стране природоохранной общественности. Вместе с тем ученый, по его словам, категорически против создания с этой целью «некоего Союза экологических обществ, поскольку тогда он моментально выродится в то самое Общество охраны природы, которое, как известно, может гордиться только своей многочисленностью — 38 миллионов человек! — и хорошо поставленной бюрократией».

Чем больше будет в стране разных общественных «зеленых» организаций и движений, тем лучше: централизация в подобном деле, считает ученый, может принести один только вред. Вместе с тем «партизанщина» — особенно когда речь идет о борьбе против явно губительных для природы проектов — также недопустима.

Касаясь экологических движений в СССР, число которых в последние годы начало расти подобно грибам после хорошего дождя, А. Яблоков высказал следующее соображение:

— В Советском Союзе экологическое движение стало своеобразной отдушиной: внешне вроде деполитизированное, но в то же время дает «флаг в руки». В итоге появляется множество попутчиков, которые называют себя «зелеными», а на деле — «красные», «синие»... Какие угодно. Особенно это заметно на примере Прибалтики, где природоохранные организации стали чисто политическими.

Между тем экологическое движение — в идеале — должно, по словам А. Яблокова, «быть общественным, беспартийным, открытым для всех». Лишь при этом условии оно сумеет, на его взгляд, решить те труднейшие задачи, которые перед ним стоят в части охраны гибнущей природы, как это делает, к примеру, «Гринпис» на Западе.

В условиях же нашей страны, где весьма низок уровень «экологичности» всей системы, прежде всего политической, такая «деполитизация» экологического движения просто необходима.

Первые шаги в этом направлении уже сделаны. Как известно, в общесоюзном парламенте в прошлом году, когда утверждался состав нового правительства страны, были забаллотированы пять кандидатов в министры. Причина? Их отношение к экологии. Самой большой победой экологистов, включая и членов парламентского Комитета по экологии (А. Яблоков был избран в нем заместителем председателя), является принятие на второй сессии Верховного Совета СССР специального постановления «О неотложных мерах экологического оздоровления страны». В нем, в частности, введено правило обязательной **независимой** экспертизы экологической безопасности того или иного проекта. Без такой предварительной экспертизы отныне нельзя будет открывать финансирование какой бы то ни было стройки.

Сказанное, однако, не означает, что борьба за охрану природы завершена. Правительство, констатирует ученый, все еще упорно отказывается «позеленеть». А без этого никакого прогресса в данной области ждать не приходится...





**В конце июля гостями Минска были участники двух детских танцевальных коллективов из США. Они были приглашены ансамблем «Зубренок» Дворца культуры и техники Минского автозавода.**

**Дети быстро нашли общий язык. В большой праздник дружбы превратился концерт, в котором приняли участие юные артисты ансамбля «Зубренок» и американские из городов Детройт и Батл Крик.**

**— Мы очень довольны тем, что появилась возможность таких контактов, — сказал отец одной из участниц американского ансамбля Боб Сакект. — Народная дипломатия лучше официальной. Еще вчера меня считали одним из апологетов буржуазной пропаганды, и я никак не ожидал, что смогу быть гостем вашей страны. Приятно чувствовать, что нет враждебности и настороженности у вас к нам, американцам.**

**НА СНИМКАХ: вместе сфотографировались на память; гости перед концертом.**

**Фото Г. КАДЕТА.**

*ВЗГЛЯД ИЗ МОСКВЫ*

# ДЕКЛАРАЦИЯ «СЕМЕРКИ»

Наверное, не следовало ожидать никаких неожиданностей из Хьюстона. Задолго до встречи каждый из руководителей государств-«локомотивов» мировой экономики имел возможность высказать свой взгляд на проблемы финансовой помощи Советскому Союзу и использовал эту возможность. Сама необходимость «донорства» не подвергалась сомнению. Споры вызывали способы и условия оказания помощи. И это было уже не в новинку. События последних месяцев — я имею в виду и вступление СССР в ГАТТ, и создание Европейского банка реконструкции и развития, где СССР стал равноправным партнером, и увеличение фонда помощи восточноевропейским странам из МВФ, и новое торговое соглашение СССР — США — сформировали достаточно жесткую модель взаимоотношений: экономические льготы за демократизацию общества и либерализацию торговли.

На этом фоне предъявленные на совещании в Хьюстоне претензии к СССР (помощь Кубе, проблема «северных территорий» на Дальнем Востоке и пр.) — дело скорее политики, чем «чистой» экономики.

Поэтому, если оставить политологам анализ «чисто политических» причин, то можно предположить, что несколько прохладное отношение к помощи СССР со стороны «четверки» вызвано прежде всего непоследовательностью экономической политики Советского правительства, медленным формированием сектора альтернативной экономики (так иногда называют все формы негосударственных предприятий) и сдерживанием проникновения зарубежных инвестиций во всех формах на советский рынок.

Думаю, что все это базируется не на плохом знании экономических законов, а на идеологических стереотипах, глубоко укоренившихся в сознании советских людей, в том числе и руководителей государства, правительства, правящей партии. Не случайно в заключительном слове на XXVIII съезде КПСС вновь избранный Генеральным секретарем М. Горбачев заявил: «...не скрою, меня обеспокоило, когда съезд тремя четвертями голосов решил изменить название комиссии по экономической реформе, исключив из нее слово «рынок». Значит, сохраняется непонимание предложенного обществу крутого поворота на радикальное изменение ситуации в народном хозяйстве».

Справедливости ради надо отметить, что Горбачев получил мандат на следующий срок руководства Коммунистической партией не ценой уступок в стратегии перестройки. Достаточно жестко им было заявлено, что экономический курс — к рынку — будет соблюден, пока он стоит во главе партии и государства. В той же речи он сказал и о преимуществах рыночного хозяйства, и о возможности регулируемого перехода к рынку в СССР с тем, чтобы обеспечить высокую социальную защищенность всем слоям населения при реализации правительственной программы.

Не вдаваясь в подробности правительственной программы перехода к рыночной экономике, возвращенной парламентом страны на переделку ( в сентябре произойдет очередное слушание), хочу только сказать, что она — не единственный вариант. Наряду с правительственной комиссией работает и альтернативная, возглавляемая академиком Аганбегяном и собравшая немало неординарно мыслящих ученых и практиков. Самое же главное — в большинстве союзных республик и в ряде крупных экономических регионов разрабатываются свои варианты перехода к рынку. Возможно, такое разнообразие методов и мнений — своего рода болезнь, которой, как корью в детстве, должны переболеть обретшие настоящую независимость республики. Но, с другой стороны, только обретшие локальные программы, учитывающие потребности и потенциал региона, могут реально изменить сложившуюся унифицированную структуру хозяйства, достаточно ярко доказавшую свою неспособность ни к саморегулированию, ни к самообновлению. К тому же самостоятельность республик (правда, пока еще в большей степени декларативно) касается и их внешнеэкономических связей, что дает основание надеяться на более либеральные условия учреждения совместных предприятий в республиках или возможность прямых зарубежных инвестиций в предпринимательство.

И еще одно — правительственные программы развития, известные до сих пор, предусматривали, если можно так выразиться, производственные, технологические изменения, под которыми в первую очередь подразумевался рост выпуска тех или иных товаров, сырья, энергоносителей. Альтернативные же программы направлены прежде всего на решение финансовых проблем, в частности укрепление рубля, достижение внутренней конвертируемости, изменение системы ценообразования. Количественные же параметры, так же, как и проблему — что именно производить, авторы этих программ оставляют на усмотрение производителей, предоставляя им полную свободу действий на рынке, оставляя за государством право управлять ими посредством финансовых рычагов — налогов, льгот и пр. Такой — собственно рыночный — подход к решению экономических проблем создает в свою очередь и альтернативу в использовании зарубежных кредитов (если они, конечно, будут предоставлены): закупать ли на них продовольствие и потребительские товары или станки или найти какой-то другой способ применения.

Разумеется, что одними кредитами, как бы ни был велик их размер (профессор Д. Сакс из Гарвардского университета считает необходимым вложить в оздоровление советской экономики не менее 90 миллиардов долларов в трехлетний срок), не преобразовать структуру, не совершить ни научно-техническую, ни финансовую революцию. Зарубежные инвестиции могут лишь дать импульс к созданию экономики открытого типа, а постоянное равноправное сотрудничество — помочь занять свое место в международном разделении труда. Главное так или иначе придется делать самим советским людям. Только при оказанном вовремя содействии (вдвое дает тот, кто дает вовремя) переход к новым формам хозяйствования пройдет и быстрее,и безболезненнее.

**Владимир МЫТАРЕВ.**

**Унікальны па сваёй архітэктуры будынак Вялікага тэатра СССР зараз паўстае ў змененым выглядзе. Не ўбачаць у летнія месяцы турысты і масквічы на франтоне такой знаёмай квадрыгі коняў з калясніцай Апалона. Яна—пад укрыццём са шкла, якое ўжо дасціпна празвалі «шкляной канюшняй». Велічныя калоны перад фасадам — таксама ў будаўнічых рыштаваннях. Праслаўлены тэатр рамантуецца, рэканструюецца. Работы пачаліся яшчэ ў разгар прадстаўленняў. А сёння — ужо няма афіш, закрыты цэнтральны ўваход: Вялікі тэатр завяршыў свой 214-ы сезон.**

**— Як ён праўшоў у балетнай трупы!—з такім пытаннем я звярнулася да галоўнага харэографа Вялікага тэатра СССР Юрыя ГРЫГАРОВІЧА.**

## ІНТЭРВ'Ю Ў ЧАС АНТРАКТУ

# ЗАВЕРШАНЫ 214-ы СЕЗОН

— У напружанай рабоце, — гаворыць Юрый Грыгаровіч,—было шмат выступленняў дома. Было шмат зарубежных гастроляў: Францыя, Бразілія, Кітай, дзе савецкі балет не выступаў амаль тры дзесяцігоддзі, Паўднёвая Карэя, дзе савецкія танцоўшчыкі паявіліся наогул упершыню. І, нарэшце, Італія, дзе таксама ўпершыню на чэмпіянаце свету па футболу наш балет прыняў удзел у культурнай праграме: выступаў пад адкрытым небам у Калізеі.

Я ўжо не кажу пра асобныя паездкі невялікіх груп і салістаў у розныя гарады Савецкай краіны і за яе межы. Так, група на чале з Наталляй Бяссмертнавай гастралявала ў Англіі. Людміла Семяняка выступала ў спектаклях на сцэнах «Гранд-опера» і Метраполітэн. Ала Міхальчанка танцавала ў гала-канцэрце ў Парыжы, Ірэк Мухамедаў — у Вене...

*— Можна толькі вітаць такую працаздольнасць трупы. Але вось у савецкай прэсе гучаць папрокі: Вялікі тэатр рэдка можна пабачыць у Маскве...*

— Нягледзячы на ўсе нашы гастролі, маскоўская публіка зусім не разлучана з балетам Вялікага тэатра. Не было і месяца ні ў мінулым, ні ў папярэдніх сезонах, каб у сталіцы не ішлі нашы спектаклі. Самая буйная ў свеце балетная трупа валодае сіламі, каб адначасова выступаць і дома, і на гастролях. Іншая справа, што могуць адсутнічаць пэўны час тыя ці іншыя артысты або спектаклі...

Але, дарэчы сказаць, за рубяжом наогул узаконены цыклічны паказ рэпертуару. Адзін і той жа спектакль ідзе запар доўгі час. Дзве-тры назвы на цэлы месяц. Цяпер, калі ва ўсіх сферах жыцця мы такія ўважлівыя да зарубежнага вопыту, чаму б і Вялікаму тэатру штосьці не пераняць?

Павінен заўважыць, што цяпер, у сувязі з пераменамі ў савецкім грамадстве, дзяржаве, усё часцей розныя тэатральныя калектывы выязджаюць за рубеж. І савецкая прэса, як правіла, з захапленнем апісвае іх паездкі. Але як толькі справа тычыцца Вялікага тэатра, дзіўным чынам, як па камандзе, раздаецца дружны хор папрокаў.

*— Магчыма, гэта выклікана тым, што Вялікі тэатр больш значны за іншыя калектывы?.. Але калі мы ўжо загаварылі аб папроках прэсы, дык вось яшчэ адзін: у Вялікім тэатры ў апошні час няма новых пастановак. Хоць, калі ўзяць пад увагу шматлікія гастролі, прычына ў якойсьці ступені, думаецца, ясная. Бо для новых пастановак патрэбна «пад рукой» практычна ўся трупа: частка—каб удзельнічаць у новай рабоце, другая — каб без страты весці бягучы рэпертуар...*

— Зусім справядліва. Але патрэбна яшчэ адно ўдакладненне. Калі гутарка ідзе пра новыя творы, якія яшчэ нідзе не ставіліся, дык сапраўды, у нас іх не было. Аднак рэпертуар наш пастаянна папаўняецца за кошт спектакляў, ужо створаных некалі, і якія не ішлі на сцэне Вялікага. За тры апошнія сезоны ў нас было сем такіх работ.

Прычым два сезоны запар у нас працавалі зарубежныя балетмайстры. Француз Ралан Пеці паставіў «Сірано дэ Бержарак» на музыку Канстана, датчанка Кірстэн Ралаў — «Вечар харэаграфіі Аўгуста Бурнанвіля», класіка XIX стагоддзя. «Сірано» ніколі не ішоў у СССР. У бурнанвілеўскай праграме таксама шмат рэчаў, мала ці зусім невядомых савецкай публіцы.

У свой час я беспаспяхова, як гавораць у Расіі, «абіваў парогі» ўлад ад культуры, дабіваючыся запрашэння ў Вялікі Сяргея Ліфара, Джорджа Баланчына... Але тады падобнае было практычна немагчыма для любога калектыву, тым больш для Вялікага, які знаходзіўся пад асабліва строгім кантролем. Дзякуй богу, часы мяняюцца...

*— А чым адметныя іншыя работы трупы?*

— Найсур'ёзнейшая місія Вялікага тэатра — займацца класічнай спадчынай. Далёка не кожная трупа ў стане справіцца з такой складанай справай. Мы аднавілі ніколі не ішоўшы ў Вялікім шэдэўр Марыуса Г[illegible]па «Пахіту» (3-і акт). Аднавілі «Пят[illegible]у» ў харэаграфіі Міхаіла Фокіна на музыку Ігара Стравінскага. Гэты балет увайшоў у праграму ўрачыстага вечара да 100-годдзя з дня нараджэння Вацлава Ніжынскага. Яго мы правялі разам з нашымі французскімі калегамі з «Гранд-опера».

Яшчэ аднаўленне с[illegible]ыны, ужо савецкай: «Вечар харэаграфіі Касьяна Галейзоўскага», выдатнага балетмайстра 20-х гадоў. Яго нумары, забытыя, рэдка выконваемыя, склалі два аддзяленні. Удзельнічала балетная трупа і ў новых оперных пастаноўках: у оперы-балеце «Млада» кампазітара Рымскага-Корсакава, у оперы «Жыццё за цара» Глінкі, дзе таксама ёсць маштабная харэаграфічная карціна. Артысты былі заняты і іншай вялікай работай. У прыватнасці, два апошніх сезоны ішлі сумесныя савецка-японскія здымкі відэафільмаў. Зроблена дзесяць нашых балетных спектакляў.

*— Як стала вядома, зараз пры Вялікім тэатры арганізуецца студыя пад вашым жа кіраўніцтвам...*

— Гэта свайго роду філіял Вялікага тэатра, але з самастойным статусам, на гаспадарча-разліковых пачатках. Студыя маладзёжная, яе артысты не старэйшыя за 25 гадоў. Усяго — 60 чалавек, 28 з іх адабраны з выпуску гэтага года Маскоўскага харэаграфічнага вучылішча. А на асобныя ролі будзем запрашаць і з боку — па кантракту.

На афішы студыі будуць і мае пастаноўкі, і работы маіх вучняў. Так што ўтвараецца як бы мая балетмайстарская майстэрня для работы з маладымі пастаноўшчыкамі. Свайго памяшкання ў нас пакуль няма. Будзем выступаць на розных пляцоўках, у тым ліку і за рубяжом.

*— А што чакае асноўную трупу Вялікага тэатра?*

— У новым сезоне да нас прыедзе выдатны харэограф Джон Ноймаер, кіраўнік Гамбургскай трупы, для пастаноўкі балета «Пер Гюнт» на музыку Альфрэда Шнітке. Акрамя таго, зноў гастролі: у летнія «канікулы» — у ЗША, восенню — у Японіі, у будучым годзе — у Парыжы, дзе 20 спектакляў пройдуць на сцэне «Гранд-опера», а затым адбудуцца паездкі ў іншыя гарады Францыі.

**Гутарку вяла Санія ДАЎЛЕКАМАВА.**

## *З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# КНЯЗЁЎНА, МАНАШКА, АСВЕТНІЦА

Ефрасіння Полацкая... Князёўна, манашка, асветніца. Паміж сённяшнім днём і часам, калі жыла славутая палачанка, ляжыць больш за восем стагоддзяў. Не дзіўна, што гісторыя захавала пра яе не надта багатыя звесткі, але і яны дазваляюць убачыць агульнаеўрапейскую значнасць асобы гэтай незвычайнай жанчыны.

Жыццё і дзейнасць выдатнай асветніцы даўно прыцягваюць увагу даследчыкаў. У першую чаргу трэба назваць А. Сапунова, які падрыхтаваў «Житие преподобной Евфросинии, княжны Полоцкой» (Віцебск, 1888), кнігу Я. Пасяляніна «Преподобная Евфросиния, княжна Полотская» (СПб, 1910). Вацлаў Ластоўскі ў кнізе «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» (Коўна, 1926) стварыў поўны абаяльнасці і псіхалагічнай перакананасці вобраз сярэдневяковай беларускай асветніцы Ефрасінні Полацкай. З публікацый 70—80-х гадоў трэба адзначыць артыкул М. Ермаловіча «Яко луна солнечная» («Полымя», 1973, № 8). На фоне драматычнага і супярэчлівага часу пісьменніца Вольга Іпатава стварыла вобраз асветніцы ў гістарычнай аповесці «Прадслава» (Прадслава — сапраўднае імя Ефрасінні Полацкай — Э. І.).

І вось новая работа пра Ефрасінню Полацкую — навукова-папулярны нарыс пісьменніка Уладзіміра Арлова «Асветніца з роду Усяслава», якая выйшла ў канцы мінулага года ў выдавецтве «Навука і тэхніка». Чым жа каштоўнае гэта даследаванне, улічваючы той факт, што мы амаль не сустрэнем згадак пра дзейнасць Ефрасінні ў музейных экспазіцыях і ў школьных падручніках па гісторыі Беларусі, маўчыць пра яе і пяцітомная [illegible]дэмічная «Гісторыя БССР».

На падставе аналізу разнастайных гістарычных крыніц, асноўнай з якіх з'яўляецца «Жыціе Ефрасінні Полацкай», аўтару работы ў папулярнай форме ўдалося расказаць аб жыцці і дзейнасці гэтай выдатнай асве[illegible]ы, адной з самых адукаваных ж[illegible]ын Еўропы XII стагоддзя. У. Арлоў праявіў сябе не толькі здольным літаратарам, але і даследчыкам. Ён змог не толькі абагульніць амаль усё вядомае, але і акцэнтаваць увагу на невядомым.

У кніжцы 16 ілюстрацый. Сярод іх гравюра XIX стагоддзя, на якой адлюстравана Ефрасіння, князёўна Полацкая, Спаскі сабор Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, рака Ефрасінні Полацкай у Кіева-Пячэрскай лаўры.

Дачка князя Георгія Усяслава, унучка полацкага князя Усяслава Брачыславіча (Чарадзея), Прадслава пастрыглася ў манашкі і пасялілася ў келлі Полацкага Сафійскага сабора, дзе вяла пустэльніцкае жыццё, перапісвала царкоўныя кнігі. Менавіта Ефрасіння пабудавала на ўласныя сродкі дзве царквы ў сваім горадзе, заснавала жаночы і мужчынскі манастыры, якія сталі асяродкамі асветы ў Полацкім княстве.

У прадмове да кнігі У. Арлоў адзначае, што без гэтай жанчыны немагчыма ўявіць не толькі панараму духоўнага жыцця на ўсходнеславянскіх землях у XII стагоддзі, але і ўсю гісторыю беларускай культуры. Князёўна, ігумення, а найперш выдатная асветніца, пра якую «Жыціе Ефрасінні Полацкай» кажа, што яна — «небопарный орел, попаривши от Запада и до Востока, яко луна солнечная, просветивши всю землю Полоцкую», Ефрасіння пакінула аб сабе добрую памяць у душы народа.

Адным з самых цікавых з'яўляецца ў кніжцы раздзел «Збіральніца талентаў». Знаходзячыся ў цэнтры культурнага жыцця тагачаснай Полацкай зямлі, Ефрасіння выступала ў ролі збіральніцы талентаў, своеасаблівай мецэнаткі. Па яе заказу дойлід Іаан пабудаваў сусветна вядомую царкву Спаса, якая лічыцца дасканалым узорам полацкай архітэктурнай школы. Мясцовы майстар-ювелір Лазар Богша зрабіў для Ефрасінні Полацкай свой славуты крыж — бясцэнны помнік старажытнаславянскага мастацтва.

У фондах Рускага музея ў Ленінградзе захоўваецца старажытны абраз Боскай маці, вядомы пад назвай Адзігітрыя Полацкая. Як адзначае У. Арлоў, гэты жывапісны твор XII стагоддзя мае вельмі цікавую гісторыю. Яна пачынаецца з рашэння Ефрасінні ўпрыгожыць сабор, што быў пабудаваны ў заснаваным ёю Багародзіцкім мужчынскім манастыры. З «Жыція» мы даведваемся, што знакамітая палачанка паслала слугу Міхаіла ў Царград да візантыйскага імператара Мануіла Компіна і патрыярха Лукі Хрысаверга. Пасланец вёз багатыя дарункі і просьбу Ефрасінні прыслаць ёй абраз Багародзіцы Эфескай, адзін з трох абразоў, што, паводле хрысціянскага падання, яшчэ пры жыцці дзевы Марыі напісаў з яе першы іканапісец, апостал Лука, які з гэтае прычыны ў сярэдневеччы лічыўся апекуном мастакоў. Імператар Мануіл паставіўся да просьбы полацкай сваячкі з разуменнем. Адпраўленыя ім у Эфес сто воінаў прынеслі абраз у Канстанцінопаль, адкуль пасля благаславення патрыярхам у храме святой Сафіі рэліквія была паслана Ефрасінні.

Новыя звесткі, а таксама аналіз старых фактаў знойдзе чытач, пазнаёміўшыся з раздзелам «У гушчыні палітычнага жыцця». У. Арлоў паказвае вялікі ўплыў князёўны-ігуменні на палітыку Полацка. Ефрасіння ўздымала свой голас супраць княжацкіх усобіц, папярэджвала, што братазабойчыя войны могуць прывесці радзіму да гібелі.

Шмат карыснага і цікавага знойдуць для сябе ў нарысе «Асветніца з роду Усяслава» ўсе, хто па-сапраўднаму хоча ведаць гісторыю беларускай культуры, старажытную гісторыю Беларусі.

**Эмануіл ІОФЕ.**



**Выстаўка «Выратаваныя шэдэўры» прайшла ў Баранавіцкім краязнаўчым музеі. Тут экспанаваліся творы мастацтва, адабраныя на граніцы пры спробе іх незаконнага вывазу з нашай краіны. Сярод іх іконы, крыжы, мэбля, гадзіннікі, старадаўняя зброя, бронзавае ліццё і фарфор, карціны вядомых мастакоў. Частку выратаваных шэдэўраў з запаснікоў Брэсцкага музея змаглі ўбачыць жыхары і госці Баранавіч. НА ЗДЫМКУ: у выставачнай зале краязнаўчага музея.**

# А ЛЕТА КРОЧЫЦЬ

ШТОСЬЦІ не спалася, і я выйшаў на падворак. Панаваў шэры світанак; пачынаў займацца золак, бурштынавыя расінкі віселі на лісцях і бліשчэлі ад святла.

Раптам жвавы ветрык цепануў лісце, зніклі расінкі, пацямнеў усход і паплыла сівая хмара, пачаў марусіць дробны, нібы асенні дожджык.

«Як ён дарэчы» — падумаў я. Дождж прыбіваў пыл на дарозе, чысціў паветра, зеляніў лісце і што асабліва каштоўна — паіў лес, каб раслі грыбы, якія ўжо спазняліся.

Дождж ішоў ціха, не спяшаўся, у лужынах не булькаў, толькі шамацеў па дрэвах. Ён не рабіў ручаёў, а даваў магчымасць глебе ўталяць смагу.

Нават куры задаволена выйшлі пахадзіць, памыць сваё пер'е. Калі верыць народным прыкметам, ён надоўга, бо куры выйшлі пад дожджык.

СІВЫ ранішні туман слаўся па паднёманскай лугавіне. Ён старанна прыціскаўся да маладое атавы, ахутваў лозы, да паловы дубы-волаты, што стаялі радочкам уздоўж берага ў норце. Была выключная цішыня: ні шуму, ні гуку, толькі верхавіны дубоў цямнелі над ім. Здавалася, што яны яшчэ дрэмлюць на світанку і не хочуць прачынацца. На верхавіне аднаго дуба вялікая буслянка. На ёй маладыя буслы прачнуліся спазаранку, па адным махаюць крыламі і падскокваюць на гняздзе: відаць, трэніруюць свае мускулы для хуткага палёту ў далёкія, невядомыя краіны, каб зноў вясной вярнуцца на цудоўную Радзіму.



«Якая сціплая прыгажосць нашае прыроды. Ніякага чванства-зазнайства. Усё ціха, ветліва, паслухмяна і крышачку сумна» — думаў я.

КАЛІ я выйшаў на дарожку, цень быў кароткі: бралася на поўдзень. Палетак збажыны быў вялікі і, здавалася, што ён накрыты агромністым жоўтым пакрывалам, якое крыху варушыцца. Злева і справа спелае жыта падышло да самай сцяжынкі, жоўтая салома прыгнулася, трымаючы важкія каласы. Яны ласкава кранаді мае рукі, нібы прасілі: «Нам цяжка, хутчэй збярыце...»

Паветра вісела чыстае, сухое, пахла сонцам, саломаю, нагрэтай зямлёю, рамонкам, валошкаю і яшчэ немаведама чым. Недалёка ад мяне то тут, то там стракаталі конікі, і мне нагадалася папярэджанне бацькі нас малых: не лезьце ў жыта, а то як выскачыць казытуха, відаць, чулі як яна стракоча, яна вас заказыча.

Тады мы не разумелі, што бацька страшыў, каб дзята не ламала збажыны — надзеі, радасці хлебароба.

Я. КРАМКО.

Беражна.



## СОЧЫ СПЯВАЕ ПА-БЕЛАРУСКУ

Першы фестываль музычнага мастацтва Беларусі адбыўся ў Сочы. Скромная эмблема фестывалю, хоць і не вельмі прыкметная сярод раскошнай зеляніны і кветак, усё ж прыцягвала ўвагу аматараў музыкі. Прычым радасць ад сустрэчы з любімымі калектывамі і выканаўцамі атрымалі паклоннікі і сур'ёзных, і забаўляльных жанраў. У праграме фестывалю—выступленні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР, Дзяржаўнага мінскага камернага хору, ансамбля старадаўняй музыкі «Кантабіле» і народнай—«Свята». Гледачоў чакалі сустрэчы з народнай артысткай СССР Святланай Данілюк, арганістам Канстанцінам Шаровым, групай «Шчаслівы выпадак» пад кіраўніцтвам Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча, вакальна-інструментальным ансамблем «Сябры». Не ўпершыню за межамі рэспублікі выступае і малады мінскі камерны хор пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхава.

— Наш шлях да сочынскага фестывалю аказаўся на дзіва простым і кароткім,—гаворыць намеснік міністра культуры БССР В. Рылатка.—Спрацавалі прамыя сувязі паміж мінскай і сочынскай філармоніямі. Задаволілі нас і ўмовы, прапанаваныя жыхарамі поўдня: некалькі канцэртаў вырашана зрабіць дабрачыннымі, а ўвесь збор ад продажу білетаў пералічыць у фонд ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

## СПОРТ







Каля шасцісот удзельнікаў сабраў у Мінску чэмпіянат краіны па веласіпеднаму спорту, арганізаваны Саюзам аматараў велаpуху «Пелетон». На яго былі запрошаны веласіпедысты з ЗША, Аўстраліі і Польшчы. Госць з Амерыкі, спартсмен Герхард Роб прыехаў да нас са сваімі сынамі — пяцігадовым Суолі і сямігадовым Бобі. «Мае хлопцы вельмі задаволены, — сказаў ён. — Лічу, што перад намі тут шмат выдатных прыкладаў спартыўнага даўгалецця».

НА ЗДЫМКАХ: старт групавой гонкі; паспяхова выступілі ў спаборніцтвах мінскія велагоншчыкі Д. БУБЕН (залаты медаль) і У. БЯЛЯЎСКІ (сярэбраны медаль). Яны паказалі найлепшы час для ўсіх узроставых груп у гонцы на 17,4 кіламетра; юныя амерыканцы Суолі і Бобі.

Фота М. МІНКОВІЧА.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**ШЫКУНОЎ Барыс Аляксеевіч** шукае стрыечных братоў у ЗША. Іх бацька, **ШЫКУНОЎ Іван Іванавіч**, які нарадзіўся прыблізна ў 1890 годзе ў г. Цемнікаве Мардоўскай АССР, выехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі ў 1913 годзе. Да 1941 года яго сваякі мелі з ім перапіску, якая затым абарвалася.

Просьба да ўсіх, хто можа дапамагчы ў пошуках сваякоў Барыса Шыкунова, пісаць у рэдакцыю або на адрас:

**224000, БССР, г. Брэст, вул. Пушкінская, д. 59, кв. 127. ШЫКУНОВУ Барысу Аляксеевічу.**

**БАБІЧ (ЛУЧАНОК) Марыя Віктараўна** шукае родных у ЗША. Яе дзядзька, **Сідар БАБІЧ**, які нарадзіўся прыблізна ў 1900—1908 гадах, быў вывезены ў Злучаныя Штаты Амерыкі ў 1944—1947 гадах. З перапіскі, якую ён вёў з роднымі, вядома, што ў яго было 3 дзяцей: **Якаў і Павел**, прыблізна 1940—1945 года нараджэння, **Марыя**, прыблізна 1945—1947 года нараджэння. Якаў і Павел сталі свяшчэннікамі.

Просім усіх, хто можа дапамагчы ў пошуках названых асоб, пісаць у рэдакцыю ці на адрас:

**220096, БССР, г. Мінск, вул. Капыльская, д. 12, кв. 1. ЛУЧАНОК Марыі Віктараўне.**

**ШАРАБАЙКА Мікалай Пятровіч** шукае сваіх братоў — Пятра, 1938 ці 1939 года нараджэння, і Паўла 1941 года нараджэння, ураджэнцаў г. Дзісна былой Полацкай вобласці, а таксама маці — **МЯДЗЕЛЕЦ Ванду**, ураджэнку Швецыі. Пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкай акупацыі яны выехалі ў Швецыю.

Просім усіх, каму што-небудзь вядома аб далейшым лёсе названых асоб, пісаць у рэдакцыю або на адрас:

**231600, БССР, Гродзенская вобласць, г. Масты, вул. Жукава, д. 24, кв. 14. ШАРАБАЙКУ Мікалаю Пятровічу.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 1066.